ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). 9. I. Дутов разбіт і ўцёк. За ім гоняцца дружыны рэволюцыйных войск і чырвонай гвардзіі. Войскі Каледіна адступаюць. Рада раб. і салд. у Ростове — на волі.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А). Гэтымі днямі ў Ростове мае быць апавешчэна незалежная Донская рэспубліка. Каледін будзе прэзэсам міністраў і ваенным міністрам. Апрыч таго будуць міністы судоў, народнай прасьветы, таргоўлі і гасударственага кантролю.

ШТОКГОЛЬМ. Эстонскае прэссбюро апавешчае:

С прычыны жаданьня Фінляндзіі быць незалежнай эстонскіе салдаты выйшлі с Фінляндзіі, і спынена эстонская газэта, выдаваная тамака.

Местовае упраўленьне Пецярбурга пастанавіло налажыць падатак на кожную прыватную павозку і кожнага каня па 500 руб. С кожнай сабакі будуць браць 20 руб.

Меньне ўсерасейскага земскага саюза сконфісковано на карысць гасударства.

21 студня ў Пецярбурзі адбудзецца з'езд прэдстаўнікаў арміі, флота і работнікаў. Усяго мае з'ехацца каля 6.000 асоб.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Дэкрэт ураду рады народных камісараў загадывае спыніць аплату купонаў і дывідэнду. Таргоўля акціямі забаронена пад грозьбай конфіскацыі іх.

ШТОКГОЛЬМ. Разам з англіцкім паслом Буканэнам выехалі с Пецярбурга англіцкіе ваенны агент Нокс і марскі — Стэнлі. Англічане пакінулі такжэ марскіе станціі для падводных лодак у Фінскай затоцы і на Аляндзкіх астравох. Станцыя бездрапянога тэлеграфу у Архангельску ешчэ ў англіцкіх руках. Як піша „Новая Жызнь“, Троцкій зажадаў знішчыць яе ўраз-жэ і скасаваць англіцкае разведачнае бюро ў Пецярбурзі.

## З усяго сьвету.

ПАРЫЖ. (В.Т.В.—Гавас). **Парлямэнт.** Міністэр заграніччных спраў, Пішон між іншым заявіў:

„Мы падтрымліваем зносіны з усімі кругамі расейскага народу і ня робім між імі розніцы. Але мы ня хочэмо быць звязанымі мэтамі большэвікоў. Вясьці перагаворы аб мірных мэтах з уласьцю узурпатараў у Пецярбурзі мы становуча адмаўляемся. Група социалістаў з нашага парлямэнту звярнулася да расейскіх соцыалістаў, асьцерэгаючы іх, каб не рабілі заміраньня і сэпаратнага міра. Троцкій адказаў пісьмом, крыўдным для выдатных членаў французскай соцыалістычнай партыі.“

Парлямэнт высказаў давер'е міністэрству перэвагай 377 проці 113 галасоў.

БЭРН. (В.Т.Б.) Галава англіцкай работніцкай партыі, Гэндэрсон, у свäей прамове між іншым сказаў: Усе соцыалістычные партыі Эўропы выставілі мірные праграмы, прынцыпіальна згодлівые між сабой. Мы годзімся з апавешчэным большэвікамі прынцыпам самаазначэньня народаў. Будучына Ірляндзіі залежыць ад пастаноў заседаючага цяпер у Дубліне ірляндзкага конвэнту. Для Эгіпту і Індзіі мы трэбуем пашырэньня самаупраўленьня. Мы просім нашых расейскіх таварышаў верыць, што ваяўнічые англіцкіе газэты не перэказываюць жаданьняў англіцкага народу“.

ЛОНДОН Нацыональная конфэрэнція ў Калькуце (ў Індзіі) ўсемі галасамі прыняла рэзолюцію, жадаючы незалежнаго ураду для Індзіі, адказываючага перад народам.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Віцэ-прэзыдэнт міністэрства, Фрыдбэрг, заявіў у глаўнай камісіі прускага сэйму, што дэмократызація выбарнага права у сэйм адаб'ецца і на выбарах у местовае самаупраўленьне

Прэдстаўнік консэрватараў сказаў, што агульнае ныбарнае право давядзе да пагібелі ўсю старану.

На гэта віце-прэзыдэнт міністэрства адказаў, што прыклады с клясычнай старыны для нас не маюць вагі. Мы маем дзела са здаровымі, рвучыміся ўпярод массамі работнікаў, каторые знаюць сваю павіннасць перад гасударствам.

ЛІССАБОН. (Гавас). Тут узняліся новые разрухі у флоце. Крэйсэр „Wasko de Gama“ абстрэліваў крэпасць, але пасьля абстрэлу яго самога прымушэн быў паддацца і вывесіў белы флаг. Бышые ў казармах рэволюцыонеры гэтак сама паддаліся. Цяпер пануе поўны спакой.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

**11.I. Заходні тэатр:**

Спроба ворагоў неўспадзеўкі ўварвацца раніцай 10 I. на нашы пазыціі на палудзенным усходзі ад Іпра не ўдалася. На фронці ў Фляндрыі і пры Камбрэ—вострые артылерыйскіе бітвы. Між Мэвр і Маркойн англіцкі агонь у вечары і назаўтра раніцай даходзіў момэнтамі найвялікшай сілы.

**12.I. Заходні тэатр:**

Артылерыйская і мінамётная бітва ў розных пунктах фронту.

**13.I. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* На ўсходзі і паўночным усходзі ад Армант'ер і ў ваколіцах Ленсу—жывейшы агонь англіцкай артылеры.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Шматдзе на фронці артылерыйскіе бітвы. Сільные наступленьня французаў на поўначы ад Рэймсу, ў Шампані і на паўночным усходзі ад Авокур адкінуты штыкамі. На палудзенным заходзі ад Ору узяты палонные.

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскага:* На усходнім беразі Маасу і ў сярэдніх Вогезах—вострые агонь.

У чысьленых бітвах на паветры збіты ўчора 6 самалётай і 3 прывязные лятучые шары.

### КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. 12.I. Гіндэнбург і Людэндорф прыехалі сюды сягоньня раніцай.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Чэрчыль сказаў на банкеці прамову, кажучы між іншым:

Нямецкіе арміі, зволененые на усходнім фронці, йдуць на заход. Збіраюцца страшэнные хмары, каторые суляць буру. Але мы маем крэпкую веру. Злучэные Штаты павінны шыбка пасылаць на помач вэтэранам Англіі і Франціі усіх сваіх мужчын“.

ЦЮРЫХ. Генерал Краўдэр заявіў у амэрыканскім парлямэнці, што Злучэные Штаты могуць пасылаць у Эўропу па 700 000 салдатаў у год.

Паводлуг газэт, у Лёндоне і Парыжы кажуць, што „гэта лішне мала для жыцьця і лішне многа дзеля сьмерці.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Англіцкае адміралцейство апавэшчае:

Мінаносец «R kun» 9. I. затануў ля узбярэжжа Ірляндзіі з усімі людзьмі.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Нямецкіе падводные лодкі ізноў затапілі у Сяродземным моры 12 параходаў ёмкасьцю 36.000 тонн

БЭРЛІН (В.ТБ). Падводные лодкі у заходняй часьці пояса блокады навакол Англіі ізноў затапілі 19,000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б). У Паўночных водах нямецкіе падводные лодкі затапілі 6 параходаў.



Друкавана ў друкарні М. Кухты Выдавецтва «Гоман» Рэдактар Язэп Салавей